# ЗВЯЗДА

21 лютага 1996 г. серада, № 50 (22853)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

РОЗГАЛАС

### БАНКАЎСКАЯ СІСТЭМА ПАД ПІЛЬНАЙ УВАГАЙ



Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка 20 лютага прадставіў калектыву Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк» яго новага кіраўніка. Ім стала Надзея Ермакова, якая раней працавала тут намеснікам старшыні праўлення.

Паводле слоў Прэзідэнта, банкі — гэта тая сфера, дзе трэба менш гаварыць, а больш рабіць. Без такога падыходу да справы вельмі цяжка ўзняць эканоміку. Таму банкаўская сістэма цяпер будзе пад пільнай увагай кіраўніка дзяржавы, заявіў Аляксандр Лукашэнка.

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

### АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА І УЛАДЗІМІР ГАНЧАРЫК ЗНАЙШЛІ ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЕ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся 20 лютага са старшынёй Федэрацыі прафесіянальных саюзаў Беларусі Уладзімірам Ганчарыкам.**

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, на сустрэчы абмяркоўваліся праблемы ўмацавання грамадскай стабільнасці, грамадзянскай згоды і прынцыповыя пытанні забеспячэння сацыяльнай абароны насельніцтва ва ўмовах крызісных з'яў у эканоміцы. Аляксандр Лукашэнка пацвердзіў свой намер больш жорстка патрабаваць з кіраўнікоў усіх узроўняў, нягледзячы на пасады, за несвоечасовасць выплаты пенсій, зарплаты і сацыяльных дапамог.

Прэзідэнт падкрэсліў, што кожны разважлівы палітык, які рэальна клапоціцца пра народ, павінен разумець, што шлях да паляпшэння жыцця людзей трэба шукаць не ў палітыканстве, падбухторванні ці спекуляцыі на чалавечых пачуццях, а ў выпраўленні трагічных памылак мінулага, у аднаўленні разбураных вытворчых сувязей, у рэальнай інтэграцыі з Расіяй і іншымі дзяржавамі СНД, у бескампраміснай барацьбе з карупцыяй і, нарэшце, у сумленнасці і прыстойнасці кожнага кіраўніка.

Прэзідэнт і старшыня беларускіх прафсаюзаў дасягнулі дагаворанасцей і ўзаемаразумення ў неабходнасці ўмацавання сувязей усіх узроўняў улады з працоўнымі калектывамі. Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў, каб кіраўніцтва Кабінета Міністраў, міністры і іншыя вышэйшыя службовыя асобы рэспублікі штомесячна асабіста сустракаліся з вытворчымі і сельскімі калектывамі, на месцах вывучалі і вырашалі праблемы працоўнага чалавека.

**БЕЛТА.**

*СКАНДАЛ*

### АРЫШТАВАНЫ «СЛУГА ЗАКОНА»

**Надзвычайнае здарэнне адбылося ў Жодзіне. Незвычайны арышт тут правялі супрацоўнікі міліцыі.**

Пад следства трапіў адвакат. На жаль, падрабязнасці гэтай справы карэспандэнт «Звязды» даведацца не змог, бо зараз вядзецца следства. Аднак вядома, што зусім не выпадкова «слуга закона» пераступіў мяжу, за якой цяпер яму самому спатрэбіцца адвакат. Як паведамілі з добра інфармаванай крыніцы, адвакат спрабаваў прымусіць сведак даць заведама хлуслівыя паказанні. Астатнія дэталі справы зараз разбірае следства.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*АФІЦЫЙНА*

### ДЗЯРЖАВА ЎМАЦОЎВАЕ СВАЕ ПАЗІЦЫІ Ў БАНКАЎСКАЙ СФЕРЫ

**«Падпісваючы ўказ аб назначэнні старшынёй праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі Тамару Віннікаву, я зыходзіў, перш за ўсё, з таго, што яна з'яўляецца кваліфікаваным спецыялістам, добра ведае існуючыя праблемы ў банкаўскай справе і, галоўнае, бачыць шляхі іх вырашэння. Да таго ж валодае добрымі арганізатарскімі здольнасцямі, даказаўшы гэта на практыцы». Такімі словамі 19 лютага пачаў сваё выступленне Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка перад кіруючымі работнікамі галоўнай фінансавай установы рэспублікі, прадстаўляючы ім новага старшыню праўлення.**

На думку кіраўніка дзяржавы, у Нацыянальнага банка сваё поле дзейнасці. Яго галоўная задача — забеспячэнне ўнутранай і знешняй устойлівасці афіцыйнай грашовай сістэмы. У гэтым напрамку ўжо намеціліся пазітыўныя зрухі. Цяпер жа іх трэба замацаваць шляхам гібкай палітыкі рэгулявання курса беларускага рубля. А вось у забеспячэнні крэдытаздольнасці і надзейнасці функцыянавання фінансавай сістэмы, лічыць Аляксандр Лукашэнка, «пахваліцца, на жаль, няма чым». У гэтых адносінах сваё важкае слова могуць сказаць фінансава-прамысловыя групы.

Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу прысутных на шэраг іншых праблем у банкаўскай сістэме. Ён, у прыватнасці, адзначыў, што ўраду і Нацбанку ўжо ў сакавіку неабходна ўвесці часовае палажэнне аб парадку рэгістрацыі фінансавых кампаній, аб парадку выдачы ліцэнзій на ажыццяўленне тых або іншых відаў фінансавых аперацый, аб парадку страхавання прыцягнутых сродкаў фізічных і юрыдычных асоб, а таксама прыняць шэраг іншых мераў па аздараўленню фінансавага рынку.

Разумеючы важнасць пастаўленых перад Нацбанкам задач, Тамара Віннікава шчыра прызналася, што «пастараецца не словамі, а канкрэтнымі вынікамі» паскорыць шляхі выхаду з крызіснага становішча. Тым больш, што ў гэтым калектыве яна прапрацавала каля дваццаці гадоў. Галоўны банкір не стала рабіць якіх-небудзь заяў і выкладаць сваю праграму, хоць задум у яе нямала. Усе яны, паводле яе слоў, будуць ажыццяўляцца ў рабочым парадку і са згоды членаў праўлення. Адзінае, аб чым не змагла ўмаўчаць, дык гэта аб даўняй мары — зрабіць беларускі «зайчык» канверсоўнай валютай.

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

### НОВЫЯ ЎКАЗЫ ПРЭЗІДЭНТА

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў шэраг новых указаў.**

За значны ўклад ва ўмацаванне дружалюбных адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча, актыўную прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Рэспубліцы Польшча Сычэўскі Ян Янавіч узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Дзвярніцкі Яўген Міхайлавіч назначаны намеснікам старшыні Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў — начальнікам галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў.

Чарамісаў Валерый Аляксандравіч вызвалены ад пасады намесніка старшыні Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў — начальніка галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў.

У адпаведнасці з пунктам 10 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку вызвалены: ад пасады суддзі суда г. Рэчыцы Селяткоў Леанід Вітальевіч, ад пасады суддзяў гаспадарчага суда Мінскай вобласці — Краўчук Ніна Андрэеўна і Траянава Таццяна Мікалаеўна, ад пасады суддзі Магілёўскага абласнога суда — Давыдка Віктар Іванавіч.

**БЕЛТА.**

### ПРАМАЯ ЛІНІЯ

Сёння ў «прамой лініі» на пытанні чытачоў газеты «Звязда» адкажа віцэ-прэм'ер Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь **Уладзімір Гіляравіч ГАРКУН**. Размова пойдзе аб праблемах аграпрамысловага комплексу, аб сённяшніх клопатах і турботах вяскоўцаў. Мы чакаем вашых званкоў а 14-й гадзіне па тэлефонах: **68-29-21, 32-38-21.** Папярэдне пытанні задавайце па тэлефоне **68-28-72.**



## Прыметы адыходзячага быту

**Інтэр'еру сялянскай хаты ў вёсцы Маладзельчыцы Пінскага раёна, прадстаўленаму на здымку краязнаўца і журналіста з Пінска Вячаслава Ільянкова, мог бы пазайздросціць любы краязнаўчы музей.**
**На Палессі ж этнаграфічныя рарытэты яшчэ існуюць у штодзённым ужытку ў хатах старых людзей. Аднак гэты быт патроху адыходзіць у нябыт. Разам з яго носьбітамі... Застаюцца памяць і настальгічныя пачуцці.**

**Разам з тым адыходзіць у нябыт і іншы лад жыцця, адлюстраваны ў рэчах, лад, які быў характэрны для эпохі 60—70-х гадоў. І вось у краязнаўчым музеі Пінскага вучылішча мастацтваў навучэнцы ўжо збіраюць калекцыю прадметаў савецкага перыяду: розны посуд, медалі, кніжкі, элементы мэблі, якія ўжо страцілі практычнае значэнне і сталі экспанатамі. Таксама настальгічнымі.**

Фота **Вячаслава ІЛЬЯНКОВА.**



*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

### ПАРЛАМЕНТ СПРАБУЕ АДСТАЯЦЬ СВОЙ ГОНАР

**20 лютага пасля трохдзённага перапынку прадоўжыла работу сесія Вярхоўнага Савета Беларусі. Дэпутаты зноў вярнуліся да ўнясення паправак і дапаўненняў у заканадаўства аб падатках.**

Але, як заўсёды, асноўнай рабоце папярэднічаў шэраг выступленняў у «Розным». Учора яны былі надзвычай важнымі і актуальнымі. У прыватнасці, праблему канстытуцыйнасці і законнасці закранулі Аляксандр Бухвостаў і Віктар Ганчар. Апошні, выступаючы ад імя дэпутацкай фракцыі «Грамадзянскае дзеянне», адзначыў, што Вярхоўны Савет павінен адрэагаваць на пасланне Канстытуцыйнага суда аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 1995 годзе. Працягваючы сваю думку, ён заўважыў, што «практыка парушэння Канстытуцыі і ўмяшання ў паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета працягваецца». Дэпутат у якасці прыкладу прывёў назначэнне Тамары Віннікавай старшынёй праўлення Нацыянальнага банка, а сп.Корбута — першым намеснікам старшыні. «Схема такога прызначэння не стасуецца з Канстытуцыяй і Законам «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь», згодна з якімі Прэзідэнт мае права толькі ўносіць кандыдатуры на разгляд парламента. А прызначаць — гэта выключная прэрагатыва толькі Вярхоўнага Савета», — заключыў Віктар Ганчар. Дэпутат унёс прапанову неадкладна разгледзець кадравыя пытанні і ўнесці папраўкі ў заканадаўства, якія б прадугледжвалі крымінальную адказнасць за невыкананне заключэнняў Канстытуцыйнага суда.

Трэба сказаць, што выступленне Віктара Ганчара зрабіла пэўнае ўражанне і атрымала працяг. Адразу ж пасля пачатку пленарнага пасяджэння Сямён Шарэцкі прапанаваў дэпутатам уключыць у парадак дня пытанне аб пасланні Канстытуцыйнага суда адносна стану канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь. Адначасова было даручана камісіям пад кіраўніцтвам Пракаповіча, Савічава і Катлярова падрыхтаваць неабходныя матэрыялы. Па словах Старшыні Вярхоўнага Савета, пытанне будзе разгледжана ўжо на гэтым тыдні. Дарэчы, як вядома, С.Шарэцкі выступае катэгарычна супраць прапаноў аб неабходнасці ліквідацыі КС, што ўсё часцей і часцей можна пачуць ад некаторых прадстаўнікоў выканаўчай улады.

Неўзабаве парламент уключыў у парадак дня і пытанне аб кіраўніцтве Нацыянальнага банка. Унёс гэтую прапанову Станіслаў Шушкевіч, а прагаласавала за яе 120 дэпутатаў і толькі 16 — «супраць». Станіслаў Шушкевіч падкрэсліў, што калі Вярхоўны Савет не адрэагуе належным чынам на парушэнне Канстытуцыі і закона, то наўрад ці пасля гэтага зможа лічыць сябе паўнацэнным заканадаўчым органам. Як бачым, большасць дэпутатаў пагадзілася з такімі довадамі. Сесія даручыла камісіі па заканадаўству падрыхтаваць праект адпаведнай пастановы. Як удалося высветліць, камісія спрацавала аператыўна, і праект быў ужо гатовы ў першай палове дня. Мяркуецца, што першым пунктам будуць урэгуляваны ўсе акалічнасці, звязаныя з адстаўкай Станіслава Багданкевіча з пасады старшыні праўлення Нацбанка, а другі будзе азначаць, што на сённяшні дзень кіраўніком Нацбанка з'яўляецца Мікалай Кузьміч, намеснік старшыні праўлення, які пасля адстаўкі Багданкевіча выконваў абавязкі старшыні.

Цікавым было выступленне ў «Розным» і дэпутата Анатоля Лябедзькі. Яно было разбіта на некалькі частак. Спачатку парламентарый зрабіў запыт да прэм'ер-міністра адносна кошту вывезенага і вывозімага з тэрыторыі Беларусі стратэгічнага і тактычнага ўзбраення, а таксама кампанентаў ракет: урану, паліва і г.д. Потым А.Лябедзька звярнуўся да свайго калегі па парламенту, прадстаўніка фракцыі Партыі камуністаў Валерыя Шчукіна. Каб зразумець, чым выкліканы персанальны зварот, трэба вярнуцца да падзей, якія адбыліся некалькі дзён таму. Як вядома, сп.Лябедзька аднойчы выказаў нездаволенасць знешнім выглядам залы пасяджэнняў сесіі Вярхоўнага Савета і прапанаваў афарміць яе ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу. У прыватнасці, ён прапанаваў замяніць бронзавыя барэльефы, якія адлюстроўваюць фрагменты рэвалюцыйных падзей і часоў грамадзянскай вайны, а таксама прапанаваў размясціць у фае партрэты былых старшынь Вярхоўнага Савета М.Дземянцея, С.Шушкевіча і М.Грыба, што практыкуецца паўсюдна за мяжой. Гэтыя заўвагі выклікалі жорсткую крытыку з боку В.Шчукіна, які ў сваю чаргу абвінаваціў А.Лябедзьку (па яго словах) у развале сацыялістычнага ладу, СССР і камсамола. Вось і прапанаваў учора Лябедзька сустрэцца са сваім апанентам у «палітычнай дуэлі на тэлебачанні», каб прадставіць свае аргументы.

І на заканчэнне яшчэ адно назіранне ўчарашняга дня. Прыметную занепакоенасць у дэпутацкім асяроддзі выклікалі паведамленні сакратарыята сесіі аб наведванні дэпутатамі яе пасяджэнняў. «Чорныя спісы», як іх ахрысцілі дэпутаты, былі вывешаны на ўсеагульны агляд у фае залы пасяджэнняў. Лідзіруюць у «чорным спісе» спадары Калугін і Куцко, якія без уважлівай прычыны адсутнічалі ўсе тры дні — 14, 15 і 16 лютага.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*АСАБІСТАЕ*

### ПЕЧАНЕЖ,

#### *або Эпітафія па вёсках, якія пахаваў Чарнобыль*

*Як і бацькоў, радзім не выбіраюць.*
*І ўжо таму лічу за шчасце я,*
*Што выпала мне ў гэтым краі*
*Пульсацыю адчуць жыцця...*

Гэты верш, калі не здраджвае памяць, напісаў я ў Печанежы. Тады, калі вучыўся ў школе. Паэтам не стаў, але прага да «папярапсавання» вызначыла лёс.

Гараскопам, чытач, не вер. Ільвы, дзевы, скарпіёны і іншыя падзоркавыя суб'екты сядзелі са мной у адным класе і ўсе — пісалі вершы. Толькі дзякуючы таму, што вучыла нас Кацярына Елісееўна Сазонава.

Гэта было нешта. Кароткая стрыжка, кірпаты носік, спартсменка і камсамолка. Ад гарадской дзяўчыны, магу сцвярджаць, мужчынская палавіна класа страціла розум.

Кацярына Елісееўна — была ў нас класным кіраўніком — ашаламіла сваіх чатырнаццацігадовых жаўтароцікаў прапановай, якую зараз назвалі б шокавай. Настаўніца папрасіла застацца пасля ўрокаў усіх, каго цікавіць каханне.

Зразумела, засталіся ўсе.

Класны кіраўнік узяла кнігу і пачала чытаць. Аповесць Тургенева «Веснавыя воды». Пра «любоў». Уявіце наш стан — гэта вам не «урокі французскай».

Потым, разявіўшы «каробачкі», мы слухалі «Першае каханне» таго ж Тургенева. З вуснаў, хачу падкрэсліць яшчэ, сваёй настаўніцы. Гэта было ў канцы шасцідзесятых, калі пра сямейнае выхаванне, а тым больш інтым, гаварыць у школе было забаронена.

З нашага, выпускнога класа Сазонава зрабіла ўсіх лірыкамі і вершаскладальнікамі. Яна, помню, пісала на дошцы:

*Вот и солнце зашло,*
*Показалась луна...*

Пачыналася спаборніцтва, каб дастойна завяршыць фразу. Хто толькі не лез у класікі, нават беснадзейныя двоечнікі. За сорак хвілін атрымліваўся тузін варыянтаў. Настаўніца выбрала лепшы і падвяла рысу:

*Вот и солнце зашло,*
*Показалась луна.*
*Широко и светло*
*Улыбнулась она.*

І ўсміхнулася. Пры ўспаміне аб гэтай усмешцы ў мяне і зараз па целе дрыжыкі.

Школа наша была рускамоўнай, за што, між іншым, давялося мне прыняць у жыцці лёсаносныя пакуты. З арміі (служыў за Волгай) даслаў дакументы на падрыхтоўчае аддзяленне журфака БДУ. Выклік даслалі, а ўзяць адмовіліся. Камісія ў апошні момант выявіла, што беларускамоўнай адукацыі ў мяне ўсяго восем класаў, а на публікацыі ў розных газетах (вось жа мае творы), не звярнула ўвагі.

Праз год я паўтарыў захад і свайго дабіўся.

Як выпускніку з неблагім почыркам даверыла мне канцылярыя выпісваць дыпломы. Аказваецца, у «нулёўку» разам са мной паступалі армяне. Там, у сябе, у беларускай школе яны не навучаліся дакладна.

Але вернемся ў Печанеж.

У пяцьдзесят трэцім — якраз тады, калі я з'явіўся на свет (аб чым, вядома, зусім не здагадваўся) на Касцюкоўшчыне ўзнік пасёлак, які ўвасабляў нешта сярэдняе паміж горадам і вёскай. Спачатку, да хрушчоўскіх рэформаў, гэта было торфапрадпрыемства. З райцэнтра працягнулі сюды вузкакалейку, «кінулі» мост праз раку Дзярожня. Гэта было сапраўдным сацыялістычным будаўніцтвам — усё рабілася ў адно імгненне.

Але жыхароў навакольных вёсак — Гайкоўкі, Мялоўкі, Гарбавіч і іншых — больш за ўсё ўразілі тады двухпавярховыя дамы з хатнімі туалетамі. Збудаванні былі, праўда, часовыя, са шлакабетону, а сантэхніка — драўляная. Тым не менш, нам было ад чаго задзіраць нос.

У Печанежы быў інтэрнат, лазня, школа, дзіцячы садок, магазін, сталовая і нават піўная. Гэта, заўважце, на якіхсьці сто чалавек.

Раз у тыдзень бацька вадзіў мяне ў грамадскую лазню. Мне боязна было вяртацца дамоў, я чапляўся за татаву фуфайку, бо наўкол вылі ваўкі. Печанеж паставілі на балоце і, хаця асвятляўся ён электрычнасцю, драпежнікаў гэта не палохала. Пакуль не з'явіўся ў нас Абітоцкі — паляўнічы і вынаходнік. Аэрасані, сканструяваныя ім самім, зрабілі ўражанне не толькі на хлапчукоў, якія яшчэ не бачылі матацыкла, але і прымусілі сваім грукатам - раўла гэтая самаходка, як рэактыўны самалёт — шукаць чатырохногіх разбойнікаў іншы, чым у ваколіцах Печанежа, прытулак.

У школе, у час вялікага перапынку, нам давалі піражкі з павідлам. Гарачыя. Уволю. Гэта пры тым, што за дваццаць хвілін кожны з нас мог тройчы збегаць дамоў і наесціся дранікаў. Але ніхто не бегаў.

Дзяцей, у якіх была адна маці, апранала школа. Ды і ўсе мы, дзятва, тады зараблялі. Галоўным чынам варочалі торф. Або высякалі кусты абапал чыгункі. Або закідвалі брыкету кузавы машын.

Аднойчы нас падманулі. Мы сумленна загрузілі торфам «ГАЗ-51», пасля чаго дзядзька паціснуў нам рукі і завёў рухавік.

— А плаціць?

Нам паказалі сагнуты локаць.

Мужык не ведаў, што з печанежцамі так жартаваць нельга. Пакуль «газон» выў на балотных прасёлках, мы былі ў пасёлку. І пільнавалі крыўдзіцеля ля піўной: не можа ж быць, каб ён туды не заскочыў, бо, па-першае, «гаішнікаў» у прыродзе тады не назіралася, а па-другое, «халяўныя» грошы патрабавалі матэрыялізацыі. Так і здарылася. Пакуль вадзіцель куляў сваю грэшную шклянку, яго грузавік застаўся без ніводнага ніпеля.

Хто сказаў, што тады не было рынку?

Чаму зараз не хапае работы нават дарослым?

Чаму яны стогнуць ад недахвату энергарэсурсаў на Беларусі, якая стаіць літаральна на паліве?

У Печанежы я ўпершыню пакаштаваў карпа. Мой дзядзька, які працаваў шафёрам у суседнім калгасе «Кранштат», вазіў з сабою вуду. Быў сведкам яго ўзрушанасці, з якой ён дэманстраваў майму бацьку нечаканую здабычу. Спыніўся ля возера, каб даліць у радыятар вады, закінуў вуду. Пайшла рыба! Люстраны карп. Ляксей — так завуць дзядзьку — напалохаўся. Нічога падобнага ў жыцці ён не бачыў і не еў.

Печанежцы яшчэ ў шасцідзесятых займаліся сажалкавым рыбаводствам.

З Адамам Капусціным, колішнім рэдактарам раённай газеты «Шлях Кастрычніка», мы ціхенька ездзілі туды рыбачыць з Хоцімска. Раёны побач, а дырэктар саўгаса «Печанеж» Мікола Трубчык напісаў паперку вартаўніку: маўляў, хлопцы свае, няхай забаўляюцца.

Я выцягнуў карася, якім мог бы накарміць усю рэдакцыю.

У Печанежы была пякарня, якая забяспечвала хлебам ледзь не паўраёна. З гэтым аб'ектам у мяне звязаны ўспаміны, якія, напэўна, панясу з сабой: ёсць рэчы, з якімі нельга дзяліцца.

А з Кацярынай Елісееўнай сустрэўся я гадоў праз трыццаць пры даволі сумных абставінах. Яна, жыхарка Магілёва, прыйшла да майго кіраўніцтва скардзіцца на... мяне. Проста не ведала, што я — гэта я, а я гэтак жа не пазнаў у ваяўнічай бабульцы сваю любімую настаўніцу.

Божа, я хацеў з сабой нешта зрабіць, так было кепска.

Чаму я пра Печанеж?

Таму, што яго няма.

Гэта той рэдкі выпадак, калі чалавек, адносна яшчэ малады, на дзесяць гадоў перажыў сваю малую радзіму.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

### ДА ЎВАГІ ПАШТАЛЬЁНАЎ!

**Рэдакцыя газеты «Звязда» вырашыла прэміраваць паштовыя аддзяленні рэспублікі, якія дасягнуць найлепшых вынікаў падпіскі на нашу газету на II квартал 1996 года.**

**Умовы гэтага конкурсу даволі простыя: за найбольшы колькасны прырост падпіскі адносна I квартала гэтага года вызначаны тры асноўныя прэміі.**

**1-я прэмія — 3 мільёны рублёў; 2-я прэмія — 2,5 мільёна рублёў; 3-я прэмія — 2 мільёны рублёў;**

**Устаноўлена дзесяць заахвочвальных прэмій па 30.000 кожная.**

**Пераможцаў конкурсу па выніках падпіскі вызначыць ДАП «Мінская пошта». Паштовыя аддзяленні, якія перамаглі ў конкурсе, будуць названы ў газеце.**

**Рэдакцыя газеты «Звязда».**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА** Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | |

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

